НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

*Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук*



# Поплыли...
## *Но куда?*

Так с чем мы вступили в 2012 год? С убеждением, что белорусские власти и в дальнейшем рассчитывают на российские кредиты и средства от продажи ключевых национальных активов. А потому менять экономическую модель, которая кое для кого по-прежнему кажется "белорусским чудом", похоже, никто и не думает. Как и раньше, наши власти будут объяснять "временные трудности" влиянием мирового кризиса, плохим народом... Чем угодно, только не перманентным внутренним кризисом и провалами собственной политики. Исходя из всего этого, большинство независимых аналитиков утверждают, что основные цели, поставленные правительством на 2012 год, не будут достигнуты. Среди них — выход на положительное сальдо торгового баланса в размере 1,5 миллиарда долларов и снижение инфляции до 19—22%.

О том, что белорусская экономическая модель не будет меняться, свидетельствует и Закон "О Республиканском бюджете на 2012 год". Кстати, аналитики сразу стали сравнивать его с аналогичным законом за истекший 2011 год, а также с Законом "О бюджете Республики Беларусь на 2007 год". Дело в том, что 2007 год — предкризисный, относительно благополучный. После него нас ожидал мировой финансово-экономический кризис 2008—2009 годов и свой доморощенный валютный кризис 2011 года. Или, как называют 2011 год власти, год "временных трудностей" и "экономических неурядиц".

Обратимся к последнему бюджету. Если рассматривать его по суммам в рублевом измерении, то бросается в глаза, насколько показатели бюджета 2012 года "надулись" инфляцией по сравнению с бюджетами 2007-го и 2011 годов. Если республиканский бюджет 2007-го и 2011 годов имел "всего доходов" соответственно 30,6 трлн руб. и 33,6 трлн руб., то общая сумма доходов бюджета 2012 года стала уже 92,77 трлн рублей. Естественно, это не почти трехкратный скачок экономики, это в основном скачок инфляции минувшего года.

Обратим внимание на удельный вес отдельных статей расходов и доходов республиканского бюджета этих лет, что позволяет увидеть, как изменялась, в какую сторону эволюционировала структура бюджетов. Если доля доходов от налога на добавленную стоимость в бюджете 2007 года составляла 19%, то в последующем его удельный вес в доходах закладывался соответственно 40,2% и 36%. То же касается и акцизов. Как известно, это типичные косвенные налоги, составные элементы отпускных цен. По существу, их покрывает покупатель товаров и услуг. Они уплачиваются из наших с вами карманов. А вот удельный вес доходов от налога на доходы и прибыль предприятий устойчиво уменьшался. Соответственно с 7,5% в 2007 году до 6,8% в 2011-м и 5,2% в 2012 году. Эта тенденция свидетельствует о стойком ухудшении финансового состояния белорусских предприятий.

| Показатели | 2007 | | 2011 | | 2012 | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Трлн руб. | Уд.вес,% | Трлн руб. | Уд.вес,% | Трлн руб. | Уд.вес,% |
| **Доходы** | | | | | | |
| Налог на доходы и прибыль | 2,3 | 7,5 | 2,3 | 6,8 | 4,8 | 5,2 |
| НДС | 5,8 | 19,0 | 13,5 | 40,2 | 33,4 | 36,0 |
| Акцизы | 2,8 | 9,2 | 5,4 | 16,1 | 11,3 | 12,2 |
| Налоговые доходы от внешнеэкономической деятельности | 2,4 | 7,8 | 7,3 | 21,7 | 25,4 | 27,4 |
| Всего | 30,6 | 100,0 | 33,6 | 100,0 | 92,77 | 100,0 |
| **Расходы** | | | | | | |
| Общегосударственные расходы | 7,4 | 23,1 | 17,1 | 43,7 | 44,4 | 47,9 |
| Национальная оборона | 1,1 | 3,4 | 2,1 | 5,3 | 4,6 | 5,0 |
| Правоохранительная деятельность и обеспечение безопасности | 1,7 | 5,3 | 3,8 | 9,6 | 7,4 | 8,0 |
| Национальная экономика | 7,1 | 22,2 | 7,2 | 18,2 | 16,9 | 18,2 |
| Здравоохранение | 0,9 | 2,8 | 1,6 | 4,0 | 3,8 | 4,1 |
| Физкультура, спорт, культура и СМИ | 0,4 | 1,3 | 0,7 | 1,8 | 1,7 | 1,8 |
| Образование | 1,2 | 3,8 | 2,1 | 5,3 | 4,6 | 5,0 |
| Социальная политика | 11,7 | 36,6 | 4,4 | 11,1 | 8,9 | 9,6 |
| Всего | 32,0 | 100,0 | 39,6 | 100,0 | 92,77 | 100,0 |

Власти не устают говорить, что белорусский бюджет — это социально ориентированный бюджет. Что же показывает анализ расходной части бюджетов, ее структуры в динамике? Сразу хорошо виден рост доли общегосударственных расходов: с 23,1% расходной части бюджета 2007 года до 43,7% бюджета 2011 года и 47,9% бюджета 2012 года. Основу этих расходов составляет содержание государственных органов и обслуживание государственного долга — в общем, "чиновничья статья" и "долги наши тяжкие". На обслуживание внешнего государственного долга в бюджете 2012 года предусмотрено 5,9 трлн рублей. Это существенно больше расходов на образование (4,6 трлн руб.) или на здравоохранение (3,8 трлн руб.). Данная статья кратно возрастет в 2013 году. Как видим, удельный вес "чиновничьей" и "долговой" статей в расходах республиканского бюджета возрос более чем в 2 раза (47,9%/23,1%). В то время как удельный вес средств, выделяемых на социальную политику, основу которой составляют выплаты пенсий стареющему населению и оказание социальной поддержки из фонда социальной защиты, неумолимо сокращается. С 36,6% в бюджете 2007 года до 11,1% и 9,6% соответственно в бюджетах 2011-го и 2012 годов.

Так какой ориентации стал белорусский бюджет? Явно чиновничьей. Пенсионерам достаются крохи с барского стола.

В структуре бюджета 2012 года по-прежнему отражается белорусское "ноу-хау": доля расходов на национальную оборону (5%) значительно меньше доли расходов на правоохранительную деятельность и обеспечение безопасности (8%). Любое государство содержит армию, обеспечивает ее вооружением для предупреждения, а если надо, и отражения угрозы извне. Силовые ведомства — МВД, КГБ — если проводить параллель, предназначены для устранения угрозы изнутри страны. Понятно, какая угроза больше всего беспокоит наши власти. По-прежнему остаются в пасынках расходы на здравоохранение, образование, культуру. Не прогрессирует и статья "Национальная экономика". Но обнадеживает высокая положительная динамика доходов от внешнеэкономической деятельности. Однако нелишне подчеркнуть, что рост экспорта в прошлом году достигнут во многом благодаря обвальной девальвации белорусского рубля, которой в нынешнем году, надеемся, не будет.

Надо иметь в виду, что немалую часть расходов на здравоохранение, образование и другие социальные нужды понесут местные бюджеты. Расходы республиканского бюджета 2012 года (92,77 трлн руб.) составили 65,4% консолидированного бюджета (сумма республиканского и всех местных бюджетов). Совокупные бюджеты местных органов власти запланированы в объеме 76,54 трлн рублей. Из них 27 трлн — безвозмездные трансферты из республиканского бюджета. Все это так. Но наш несложный анализ наводит на размышления: в те ли стороны смещаются акценты доходов и расходов главного финансового плана государства, в правильном ли направлении плывем?

## *Летась праз Беларусь у Расію ўвезлі 20 тысяч аўто*

*Такія вынікі года падвяла расійская мытня, паведамляе сайт diver-sant.ru.*

Каля 10 тысяч іншамарак у Расію трапілі праз Казахстан. Нагадаем, што машыны, якія з трэціх краін увозіліся ў Казахстан і Беларусь да першага студзеня 2010 года, у Расіі лічацца таварамі Мытнага саюза. Пры ўвозе іх у Расію даплачваць мытныя пошліны не трэба.

## *Свой алей*

*Новы цэх ужо будуецца на Валожынскім ільнокамбінаце.*

У ім усталююць нямецкую лінію для выціскання алею, закупяць абсталяванне для ўласнай вытворчасці ПЭТ-бутэлек ад 250 мл да 1 літра.

Усяго ў рэалізацыю праекта мяркуецца ўкласці каля 6 мільярдаў рублёў. У адпаведнасці з планам, на камбінаце плануюць выпускаць 570 тон алею ў год. Для гэтага неабходна будзе штогод перарабляць да 2000 тон ільнасемя.

Раней на Беларусі (асабліва ў 60-х гадах) алей ціснулі ледзь не на кожным ільнозаводзе. Прадукцыя карысталася ўстойлівым попытам сярод спажыўцоў, алей выдавалі нават калгаснікам у якасці натураплаты, макуху спажывалі ў сельскай гаспадарцы. Але потым вытворчасць сышла на нішто. Цяпер усё пачынаецца наноў...

Пра кошт новага-старога прадукту пакуль нічога не гаворыцца.

**Георгій ПЛАТОНАЎ.**

ДЗІКУНСТВЫ!

# 13-гадовую Юлю Ляшук забіў 17-гадовы аднавяскоўвец?

*Дзяўчына знікла ў навагоднюю ноч. Апошняя надзея бацькоў знайсці васьмікласніцу жывой не спраўдзілася. Раніцай 15 студзеня супрацоўнікі міліцыі знайшлі цела васьмікласніцы, закапанае ў 70 метрах ад бацькоўскай хаты. У забойстве падазраецца 17-гадовы хлопец з гэтай жа вёскі.*



— Не магу гаварыць пра гэтае здарэнне, — голас завуча Лядзецкай сярэдняй школы Святланы Царык дрыжыць. — Юля Ляшук была адной з самых дысцыплінаваных, актыўных, адказных вучаніц школы.

— Апошняе мерапрыемства, у якім удзельнічала Юля, падрыхтоўка газеты на французскай мове на раённы конкурс, — расказвае Святлана Грыгор'еўна. — Юля амаль усе тэксты разам з настаўніцай падрыхтавала... Мы дагэтуль не можам паверыць, што яе няма, на пахаванне ўсёй школай збіраемся... Такая цудоўная дзяўчынка. І сям'я добрая, працавітая. Юля была старэйшая, у сям'і яшчэ ёсць дачка.

Гэтая дзікая гісторыя ўзрушыла ўсю краіну. 13-гадовая Юля Ляшук з вёскі Лядзец Столінскага раёна знікла ў навагоднюю ноч. Сустрэла з бацькамі свята і ў час ночы пайшла з сяброўкамі патанцаваць у мясцовы сельскі клуб. Вярталася дадому ў 4 ночы разам з сяброўкай. На скрыжаванні дзяўчынкі развіталіся, да Юлінага дома заставалася 100 метраў, дарожка хоць і знаёмая, але прайсці яе трэба было ў цемры, бо ліхтары тут ніколі не гарэлі. Дадому дзяўчына не прыйшла.

Раніцай бацькі забілі трывогу, кінуліся тэлефанаваць дачцэ, але мабільны маўчаў. Тэлефон потым знайшлі непадалёк ад царквы, каля закінутага хлява, побач ляжалі фотаапарат дзяўчынкі, пальчаткі. Каля рэчкі знайшліся іншыя рэчы: рызінка для валасоў, адзін бот, паводдаль штосьці з вопраткі. Але нідзе не было крыві, слядоў барацьбы.

Бацькі адмаўляліся ўявіць, што дачку забілі, ездзілі да экстрасэнсаў. Да апошняга спадзяваліся, што Юля жывая, што яе нехта скраў, можа, хацелі выкуп. Ляшукі — заможныя вяскоўцы, як і многія на Століншчыне.

Школьніцу шукалі ўсім светам. Супрацоўнікі міліцыі даследавалі мясцовасць вакол вёскі, прачасалі лес, 12 вадалазаў спецпадраздзялення "Алмаз" за некалькі дзён абследавалі найбліжэйшы вадаём. Мясцовасць прачэсваў і верталёт МНС. На месцы працаваў поліграфолаг.

Увечары 4 студзеня па падазрэнні ў здзяйсненні злачынства быў затрыманы мясцовы жыхар, сусед Ляшукоў. На яго штанах была кроў. Аднак следства дачыненне гэтага чалавека да злачынства не пацвердзіла, экспертыза паказала, што кроў на штанах мужчыны не Юліна, і ён 6 студзеня быў адпушчаны.

А 15 студзеня прыйшла страшная навіна: каля 10 гадзін раніцы супрацоўнікі міліцыі знайшлі цела школьніцы. Начальнік аддзела інфармацыі і грамадскіх сувязяў УУС Брэсцкага аблвыканкама Сяргей Дучэнка паведаміў журналістам, што па падазрэнні ў забойстве быў затрыманы мясцовы жыхар 1994 года нараджэння. Расследаваннем злачынства займаецца Следчы камітэт РБ, заведзена крымінальная справа па ч.1 арт.139 КК РБ (забойства).

Затрыманы скончыў Лядзецкую сярэднюю школу ў мінулым годзе. У вёсцы кажуць, што нідзе не працаваў і не вучыўся, ездзіў па краіне на заробкі. У гэтай сям'і яшчэ растуць тры хлопцы, выхоўваюцца без бацькі. Па некаторых звестках, хлопец прызнаўся ў забойстве і паказаў міліцыянерам месца, дзе закапаў Юлю. А знайсці яго дапамагла сучасная экспертыза: на знойдзеных рэчах Юлі эксперты выявілі генатыпічныя сляды староннягa чалавека, па якіх і ўстанавілі магчымага забойцу.

— Нічога пра яго гаварыць не хачу! — сказала як адрэзала завуч школы Святлана Царык. — Я не ў такім стане.

Больш падрабязную інфармацыю не ўдалося атрымаць і ў раённых інстанцыях. Адказ адзін:

— Хлопец у ізалятары, але абвінавачанне яму пакуль не прад'яўлена. Як толькі гэта будзе зроблена — даведаецеся пра акалічнасці злачынства. Апошняе слова будзе за судом.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

## *Азаренок хотел «заработать» 233 тысячи долларов*

*На БТ показали сюжет о бывшем командующем ВВС и ПВО Игоре Азаренке, которого в декабре прошлого года осудили на 9 лет лишения свободы.*

Во время следствия по делу бывшего командующего ВВС и войсками ПВО Беларуси Игоря Азаренка оперативники установили, что он планировал заработать 233 тыс. долларов в 2011 году на лоббировании интересов определенного предприятия. Такую сумму он рассчитывал получить откатом при поставках оборудования для оборонных нужд Беларуси.

Как утверждалось в сюжете, второй фигурант дела — гражданин России Андрей Машкауцан, в прошлом начальник отдела одного из российских заводов, который также признан виновным и приговорен к 6 годам лишения свободы, — вышел на своего бывшего одноклассника И.Азаренка с предложением пролоббировать интересы предприятия при проведении госзакупок оборудования на нужды ВВС и ПВО Беларуси. Положительное решение вопроса было оценено в 46 тыс. долларов, из них бывшему генерал-майору причиталось более 32 тысяч. Половину этой суммы он получил 19 декабря 2010 года наличными. Оставшиеся деньги А.Машкауцан привез в Минск 20 декабря на банковских карточках. При попытке снять с них деньги приятели были задержаны сотрудниками Главного управления по борьбе с экономическими преступлениями (ГУБЭП) МВД Беларуси.

При этом бывший командующий ВВС и ПВО был немало удивлен, что его действия посчитали противоправными. *"Он до последнего считал, что не совершил ничего предосудительного. Выдвинул версию, что его друг приехал покупать машину. Но этим, собственно, и ограничивалась защитная линия поведения"*, — отметил начальник ГУБЭП МВД **Эдуард Никитин**. Что касается денег, полученных накануне, то половину из них, более 16 тыс. долларов, И.Азаренок успел потратить за ночь якобы на личные нужды. По его словам, эту сумму ему одолжили.

И.Азаренок и А.Машкауцан сотрудничать со следствием отказались, оба утверждали, что их подставили. Однако на вопросы, откуда взялись деньги и на какие нужды они были предназначены, ответить так и не смогли. Более того, как удалось установить оперативникам, *"у Машкауцана и Азаренка были большие планы: на имеющиеся у них карточки могли в последующем беспрепятственно перечисляться средства для решения вопросов по поставке оборудования"* по серым схемам, рассказал Эдуард Никитин.

Существенную поддержку в раскрытии этого дела белорусским правоохранителям оказал Следственный комитет России.

# Чатыры ДТЗ, у якія трапілі аўтобусы

Пасля адной аварыі адразу 19 чалавек трапілі ў бальніцу. Дзякуй Богу, абышлося без ахвяр.

Паводле звестак Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, у суботу ў 19.48 ад дыспетчара станцыі хуткай медыцынскай дапамогі паступіла паведамленне аб ДТЗ з удзелам аўтобуса на аўтадарозе Р-58 Мінск—Мядзель паблізу вёскі Лускава Папярнянскага сельсавета Мінскага раёна. Да месца ДТЗ неадкладна былі накіраваны больш за 40 адзінак тэхнікі: МНС і брыгады хуткай медыцынскай дапамогі.

Пасля прыбыцця да месца выкліку першага падраздзялення МНС устаноўлена, што аўтобус МАЗ, накіроўваючыся па маршруце Паставы—Мінск, з'ехаў у кювет і перакуліўся на бок. У аўтобусе знаходзіліся 44 чалавекі (42 пасажыры, адзін вадзіцель, адзін экскурсавод), якія самастойна выбраліся з салона. Транспарт быў арандаваны для турыстычнай паездкі работнікаў аднаго са сталічных прадпрыемстваў і членаў іх сем'яў.

У бальніцы брыгадамі хуткай медыцынскай дапамогі, аўтамабілямі медыцынскай службы МНС былі дастаўлены 34 пасажыры. Шпіталізацыя затрабавалася 19 пацярпелым, у тым ліку тром дзецям. Астатнія пасажыры адправіліся ў Мінск іншым аўтобусам прадпрыемства, якому належыць МАЗ. Усе 19 пацярпелых па-ранейшаму застаюцца ў бальніцы.

Варта адзначыць, што гэта не адзінае падобнае ДТЗ за тыя некалькі сутак, калі ў Беларусі рэзка пагоршылася надвор'е.

Вечарам 13 студзеня ў Гродзенскай вобласці трапілі ў ДТЗ два аўтобусы. Рэйсавы аўтобус Брэст—Ліда перакуліўся ў Дзятлаўскім раёне. Дзве жанчыны з пераломамі дастаўлены ў бальніцу. Пасажыры расказалі, што, нягледзячы на снегапад, кіроўца гнаў на вялікай хуткасці. Мала таго, за некалькі метраў да аварыі, перад закругленнем дарогі абагнаў спачатку легкавую машыну, а пасля фуру. Вяртаючыся на сваю паласу руху, ён не ўтрымаў аўтобус. А кіроўца, між іншым, мае 39-гадовы стаж. Няўжо не бачыў, якая небяспечная траса?

У Шчучынскім раёне перакуліўся маршрутны аўтобус з пасажырамі, які ажыццяўляў рэйс Смаргонь—Гродна. У бальніцу з пераломам ключыцы і рэбраў дастаўлены адзін з пяці пасажыраў.



**Каб выцягнуць і паставіць на колы аўтобус, які трапіў у ДТЗ у Мінскім раёне, спатрэбілася дапамога 25-тоннага крана.**

## *За тры дні больш за тысячу аварый*

Умовы надвор'я, якія рэзка пагоршыліся, прывялі да таго, што колькасць дарожна-транспартных здарэнняў з матэрыяльным уронам (у асноўным сутыкненні і з'езды ў кювет) у мінулыя выхадныя ў два разы павялічылася ў параўнанні з папярэднімі выхаднымі. Такіх ДТЗ 13—15 студзеня ў краіне зарэгістравана 1102.

Зарэгістравана 60 дарожна-транспартных здарэнняў з пацярпелымі. Восем чалавек загінулі і 84 атрымалі раненні. Сярод загінуўшых — чатыры пешаходы. Яшчэ чатыры чалавекі загінулі ў выніку лабавых сутыкненняў і сутыкнення з транспартным сродкам, які стаяў.

За кіраванне транспартнымі сродкамі ў стане алкагольнага ап'янення затрыманы 442 вадзіцелі.

РЕЦИДИВ

# Экономим на здоровье?

*В США на одного жителя в год тратится на оказание медицинской помощи в целом свыше 6 тыс. долл., в Люксембурге — 5,9 тыс., Швейцарии — 5,6 тыс., Норвегии — 5 тыс., Монако — 5,3 тыс., Исландии — 4,4 тыс., Дании — 5,3 тыс., в Австрии, Швеции и Германии — по 3,6 тыс. долларов, в Беларуси нынче запланировано довести расходы на охрану здоровья одного человека до 224 долларов (по сегодняшнему курсу).*

В 2008 году чиновники от медицины хвастались: с 2002 года в стране стабильно увеличивается финансирование здравоохранения. В 2002 году расходы на здравоохранение в расчете на одного жителя составляли всего лишь 60 долларов. В 2005-м уже 128, в 2007-м — 184,6, а в 2008 году — 234 доллара!

Но с 2009 года начался обратный отсчет. Так, в 2009 году на здоровье одного жителя страны тратилось 189 долларов, в 2010-м — 149. А как финансировалось здравоохранение в прошлом, 2011-м, вообще подсчитать сложно. Когда утверждался бюджет на 2011 год, планировалось, что бюджетная обеспеченность расходов на здравоохранение на одного жителя по Республике Беларусь составит 816 тысяч 648 рублей. В начале года один доллар США стоил 3 тысячи белорусских рублей, следовательно, "медицинские" расходы на одного жителя планировались в пределах 272 долларов! Но уже весной белорусский рубль стал стремительно обесцениваться. К концу года он упал по отношению к доллару почти в три раза, до 8700. Следовательно, и расходы на медицину сократились. На одного жителя страны тратилось уже 93 доллара.

В бюджете на 2012 год запланировано довести расходы на здравоохранение на одного жителя страны до 1 миллиона 902 тысяч 218 рублей. Сегодня это 224 доллара. Но каким будет этот показатель к концу года, сказать сложно. А если сравнить утвержденные цифры с прошлогодними, то получается, что, принимая бюджет-2011, чиновники закладывали расходы на медицину большие, чем когда голосовали за бюджет-2012.

К слову, в 2010 году экспертами Всеобщей конфедерации профсоюзов и Межгосударственного статистического комитета СНГ был подготовлен доклад "О состоянии здоровья населения, организации системы здравоохранения в странах СНГ". В докладе были приведены следующие цифры:

"По данным "Мировой базы индикаторов развития", в России расходы на здравоохранение в расчете на одного жителя составляют 244,7 доллара, в Беларуси — 145,5 доллара, в Украине — 80,7 доллара.

Для сравнения: в США на одного жителя в год тратится на оказание медицинской помощи в целом свыше 6 тыс. долл., в Люксембурге — 5,9 тыс., Швейцарии — 5,6 тыс., Норвегии — 5 тыс., Монако — 5,3 тыс., Исландии — 4,4 тыс., Дании — 5,3 тыс., в Австрии, Швеции и Германии — по 3,6 тыс. долларов".

То есть хвастаться нам нечем...

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

МНЕНИЕ

# Спасение в «пятой колонне»

Как хорошо, что есть "Народная Воля", где печатаются смелые, мудрые и глубокие статьи. Сколько времени прошло после появления публикации Светланы Калинкиной "Игра в патриотов", а я помню почти каждый абзац. Очень верно подмечено, что воспитанная идеологами-манкуртами белорусская молодежь предпочитает служить тюремщиками и тыловыми крысами, нежели летчиками или танкистами. Что же удивляться: там и платят больше, да и многим тюремщикам можно утолить низменные страсти битьем дубинкой по голове. Хуже всего то, что такая молодежь, рано утратив чувство благородной цели, не имея моральных и духовных принципов и ценностей, в конце концов дуреет, звереет и спивается. Вот так и гибнет, вырождается население страны. О нации тут говорить не приходится — там, где нет национального языка, где вырождается культура коренных людей, не может быть и нации, есть только население. Это давно всем известно.

Но, слава Богу, есть и другая часть молодежи, пусть ее немного, пусть только каких-то 10—15 процентов от общего числа, но только из этой, патриотически настроенной молодежи, или, как ее называют господа манкурты, "пятой колонны", получаются настоящие защитники Отечества. Рота таких солдат одолеет батальон, а то и полк тюремщиков и тыловых крыс. Патриотов рождает не только место, но и память о славных делах предков, народные традиции, древние святыни, такие как гимн, герб и флаг, религия и родной язык.

У такой патриотически настроенной белорусской молодежи, несмотря на все старания и ухищрения идеологов-манкуртов, все еще жива память о славных делах предков, родных символах, а некоторые из молодых людей сохранили и свой родной язык. Все то, что делает человека патриотом, а народ — нацией. Возьмем, к примеру, ту же Россию. Несмотря на все трагедии и заблуждения, в России сохранилась и великодержавная спесь, и чувство гордости за свою историю, культуру, за свой язык. Там сохранились и национальные исторические святыни — трехцветный флаг, герб с двуглавым орлом, головы которого повернуты на восток и запад, и даже военная бравурная музыка, как-то марш Преображенского полка. Несмотря на то что под трехцветным флагом воевали не только белогвардейцы, но и власовцы, этот флаг россияне сделали государственным.

А что же в Беларуси? Горько и стыдно вспоминать, как одурманенные "референдумом" белорусы предали все свои святыни — и герб, и флаг, и родную мову... Откуда же тут взяться патриотизму? Для манкурта-тюремщика в службе главное не благо Родины, а плата, денежное довольствие. Где больше платят, там для него и родина.

Пока будут в цене нефть, газ, золото, алмазы и другое сырье, довольствие у российской военщины будет выше, нежели в Беларуси. Там есть из чего платить. Чем не стимул для наших манкуртов послужить в России? Но там и своих тюремщиков хватает, там нужны солдаты, а не вертухаи и тыловые крысы. Там нужны солдаты, готовые при необходимости жертвовать собой. Захочет ли наш тюремщик рисковать собой? Это же не то, что бить дубинкой по голове.

Очень интересно было наблюдать по телевизору, как главнокомандующий белорусским войском А.Лукашенко поучал генералов, как необходимо отражать нападение вражеских ракет. Не бойтесь, Александр Григорьевич, ракетами никто в вас пулять не станет. Вам прежде всего надо опасаться своего окружения, всех прихвостней, подхалимов и карьеристов. Ежели что, они первые вас предадут, арестуют, а потом еще и судить будут. Сразу вспомнят вам, где, когда и что было.

Столько вы нагнали на них страху, будучи при власти, что они никогда этого не забудут. Такое они вам никогда не простят. Но ведь когда-то и ваша власть закончится. Можно, конечно, попытаться пожертвовать независимостью страны, чтобы после устроиться хотя бы губернатором в российской провинции. Но и такое вряд ли состоится, в другой стране другие законы, другие выборы и другие назначения "свыше".

Следует иметь в виду и то, что часть белорусов никогда не смирится с потерей государственной независимости. Зачем же в таком случае России создавать лишние проблемы, когда их у нее и так достаточно?

Многие наши пенсионеры все еще надеются на некое чудо, на лучшую жизнь. Зря надеются, чуда не будет. Не из чего быть ему при нашем нынешнем положении в стране.

Жить так, как живут пенсионеры в Германии, Швеции, Финляндии, или хотя бы в Эстонии, Латвии, Литве, или в той же Польше, нашим пенсионерам еще долго не доведется. Верно сказал Лукашенко, что уже и сейчас многие пенсионеры (не считая особой категории) ходят в продмаг, как в музей.

Кто же виноват и что делать? Как вывести страну из тупика, в который ее загнали?

Мне кажется, что выход может быть только один: найти общий язык с "пятой колонной" о которой так часто говорит Лукашенко. Вернуть белорусам отнятые у них святыни — герб, флаг и, главное, родной язык. Вернуть им гражданские свободы, какими пользуются все цивилизованные народы. И тогда у людей появится жизненный энтузиазм, они станут меньше пить и лучше работать. И все постепенно наладится как на "гражданке", так и в армии. Только состоящая из патриотов армия — истинных патриотов, а не марионеток в военной форме — сможет защитить Отечество от возможной агрессии как со стороны запада, так и с востока.

**Анатоль Иванович ЦИРКУНОВ,**
**пенсионер,**
**офицер запаса.**

ТРЕВОГА!

## *Прикрываясь заботой о людях...*

*Столичные власти делают все возможное, чтобы содержание четвероногих друзей стало роскошью для простых, небогатых граждан и люди были вынуждены отказываться от них. Это вступает в противоречие с мировой практикой, доказывающей, что собака, как и кошка, всегда существовали рядом с человеком, об их преданности хозяевам ходят легенды. А одиноким людям они радость и подмога, особенно когда близких нет рядом.*

Как и на продукты питания, цены на корма, лекарства для животных стремительно растут. А на ветуслуги вообще зашкаливают. (Похоже, они и вовсе берутся с потолка.) Так, например, только за одно посещение ветклиники надо выложить 25 тысяч рублей — не считая стоимости процедур и лекарств. А стерилизация кошки или собаки обойдется более чем в 200 тысяч рублей. Откуда, спрашивается, у пенсионеров такие деньги? Даже ради любимого и незаменимого друга бедному человеку таких сумм не наскрести. Значит, выбросить друга — и остаться одному, а городским службам добавить головной боли в их неутомимой борьбе с бездомными животными!

Мало того: введена жесткая система штрафов за выгул собак без намордника и поводка. Конечно, порядок здесь нужен. Но ведь доходит до того, что требуют наличия намордников для совсем маленьких собачонок, для которых их просто не существует. Да и отсутствие специальных мест для выгула собак делает их владельцев очередной мишенью для штрафов.

Думаю, те, кто принимает такие драконовские меры по отношению к животным, позорят себя, прикрываясь якобы заботой о людях.

**Розалия РУБИНЧИК,**
**пенсионерка.**

*Минск.*

ОСТРЫЙ ВЗГЛЯД

# Одни живут, другие — выживают



Наверное, уже все слои населения Беларуси задумались над тем, как выжить в том кошмаре, в котором мы оказались после 19 декабря 2010 года.

Чтобы как-то сэкономить, пенсионеры в 5 утра занимают очереди в магазины за дешевым молоком; чтобы выжить, лишь бы не уволили, многие рабочие ходят на работу за 100 долларов, а некоторые сельские труженики — и за 50 долларов; чтобы прокормиться, строители, энергетики, представители частного бизнеса уезжают из страны на заработки, жертвуя общением с семьей... Чтобы выжить, белорусские женщины выходят замуж за иностранцев — лишь бы выехать отсюда; чтобы не выживать, а жить, бежит из Беларуси молодежь, студенты, самые активные, самые предприимчивые люди...

Но есть и другая, меньшая часть населения страны, ничего не производящая, но также борющаяся за выживание. Так, чтобы выжить, те, кто служит в силовых органах, готовы любого задержать, посадить, покалечить. Чтобы выжить, те, кто должен блюсти законы, эти законы забросили в урны и действуют только по приказу начальника или телефонному звонку. Чтобы выжить, те, кто должен народу доносить правду, готовы нести всякую чушь с телеэкранов и со страниц госгазет, готовы оклеветать любого несогласного с нынешним курсом правящего клана. Все эти индивиды, глубоко упрятав (а возможно, и утратив) такие человеческие категории, как честь, достоинство, совесть, извратили и главные религиозные заповеди — не убей, не укради, не обмани... Ходят в церковь, но и крадут, и обманывают, и убивают. Только поэтому и выживают.




И все-таки самым живучим у нас в стране оказался чиновничий класс, или так называемая президентская вертикаль. Начиная от самого главного руководителя и заканчивая председателями каких-нибудь сельских советов, на фоне остальной страны живут они очень и очень неплохо. Только каждый представитель этой вертикали "выживает" согласно своему статусу и месту на иерархической лестнице. Одни, выгнав из престижного района Минска — "Дроздов" — иностранных дипломатов, заняли эту территорию для своего проживания и рядышком их свита построила на свои "скромные" зарплаты коттеджи, поражающие нескромной стоимостью. Другие чиновники, более мелкого "розлива", поражают своими нескромными запросами жителей райцентров.

Например, в Речице некоторые "слуги народа" присмотрели хорошее место прямо на берегу Днепра. С одной стороны, строиться никому не запрещено. С другой — только избранным в Речице можно строить свои дома в таких местах. И чтобы ни у кого больше не возникало желания посягнуть на эту территорию, они оградили себя охранной табличкой. Теперь эти "слуги народа" пытаются выжить с занятой территории предпринимателя, который задолго до их появления построил на этой земле гостиницу для приезжающих в Речицу рыбаков. Причем методы выживания известны и применяются к несговорчивым по всей стране — это постоянные проверки контрольных и карательных служб, штрафы за каждую мелочь, за каждую неправильную запятую в документах.

Вот так и получается, что одни в Беларуси живут, а другие — выживают...

**Андрей СТОЛЕТОВ.**

*Речица.*

РЭХА

# Ад чаго залежыць патэнцыял навукі...

### *Спроба адказаць прэзідэнту на яго выказванне "Калі вы такія разумныя і вучоныя, то чаму такія бедныя і не зарабляеце на сваіх ідэях?"*

Гэтае выказванне А.Р.Лукашэнкі тыражавалася ўсімі беларускімі сродкамі масавай інфармацыі. Але ні ў адным з іх я не знайшоў адказу. Таму можна лічыць, што ідэі нашых навукоўцаў не вартыя ўвагі. Аднак рэчаіснасць куды больш складаная.

Аб велізарных стратах навуковага патэнцыялу я пісаў у "Народнай Волі" яшчэ ў 2000 годзе — "вынішчаліся самыя разумныя, адукаваныя, сумленныя". Ахвярамі расійскага царызму, а пазней бальшавізму сталі тысячы і тысячы навукоўцаў, у тым ліку нашых, беларускіх. Рэха той вялікай згубы адгукаецца і па сённяшні дзень.

Другой прычынай з'яўляецца часам нізкая сутнасць зместу сучаснай беларускай навукі. І на гэтай праблеме я не аднойчы засяроджваў увагу кіраўніцтва краіны. Аб гэтым сведчаць назвы маіх артыкулаў — "Нужны ли кандидаты наук производству?", "Какого сорта диплом?", "Кого позвать в науку", "Дысертацыйны вал ці годны ўклад у навуку?".

Трэцяя прычына — у нізкай якасці сучасных дысертацый. З гэтай нагоды я некалі тройчы звяртаўся да першага намесніка ВАК Рэспублікі Беларусь прафесара А.А.Афанасьева (сёння ён ужо старшыня. — **Рэд.**). Сутнасць прычыны і ў тым, што адны і тыя ж людзі і ў Савеце па абароне дысертацыі, і ў ВАК. Адпаведна, неабходны вучоныя саветы, членамі якіх павінны быць і прадстаўнікі роднасных нам дзяржаў (Украіны, Малдовы, краін Балтыі і, магчыма, Закаўказзя). У савецкі час па маёй спецыяльнасці "інжынерная геадэзія" існаваў такі доктарскі савет у Львове. І ён вельмі добра сябе зарэкамендаваў. Я быў яго членам ад Беларусі на працягу чатырох гадоў. І ні аднаго "абы-што" мы не прапусцілі ў навуку, чым прынеслі велізарную карысць грамадству.

Дарэчы, аніякага адказу ад спадара Афанасьева я не атрымаў. Таму даведкі аб укараненні вынікаў дысертацыйных даследаванняў часцей за ўсё — ліпавыя. Больш таго, вынікі гэтых спраў могуць мець і анекдатычны характар. Быў выпадак, калі ў сельскагаспадарчай ВНУ Беларусі абаранялася дысертацыя па вызначэнні параметраў Луны.

Пытанні павышэння навуковага патэнцыялу павінны вырашацца на самым высокім узроўні. Добрыя памкненні адзіночак, на жаль, могуць заканчвацца здзекам з іх. Гэта я пазнаў на сабе. Маё змаганне скончылася тым, што я быў выведзены са складу Вучонага савета Полацкага ўніверсітэта (па спецыяльнасці "геадэзія").

**Аляксей САЛАМОНАЎ,**
**доктар тэхнічных навук,**
**прафесар.**

ЧЫТАЧ — ЧЫТАЧУ

## *Гэта справядліва*

Паважаны пенсіянер Данііл Сякерыч у артыкуле "Это же несправедливо" (нумар за 10 студзеня), як і шмат іншых "патриотов матушки-России", скардзіцца, што яго пенсія ў Беларусі 300 долараў, а яго таварышы ў Расіі атрымліваюць па 800 долараў. І крычыць на ўсю Беларусь, што не можа "смириться с такой несправедливостью".

Шаноўны Данііл Кузьміч, мне цяжка — мяркую, і многім беларусам — зразумець Вашу пазіцыю. Вы, ваенныя пенсіянеры, з гонарам, часам да месяца і не да месяца, гучна шуміце: "Мы патриоты матушки-России!" Добра, хай будзе так. Але ж якія вы патрыёты Расіі, калі вы яе пакінулі, уцяклі ад сваёй матушкі, самай багатай і золатам, і нафтай, і газам, і ўсім-усім. Вы ганьбіце сапраўдны рускі патрыятызм, які мы, беларусы, высока цэнім і паважаем. Калі ў нас Вам дрэнна, дык чаму б не праявіць "исконно русский патриотизм" и не вярнуцца на радзіму ў Расію?

**Мікола САВІЦКІ,**
**прафесар-пенсіянер**
**(пенсія**
**140 долараў).**

ХАЧУ СКАЗАЦЬ!

## *У бок Паўночнай Карэі?*

Можна сказаць, улады самі зрабілі ўсё, каб падрыхтаваць людзей да сацыяльнага выбуху. Але, гледзячы на пасіўныя паводзіны многіх людзей, ёсць падставы сцвярджаць, што бліжэйшым часам мы не тое што сацыяльнага выбуху не ўбачым, а нават кволых пратэстаў не дачакаемся. У чым жа прычына? Ці толькі ў жорсткай рэпрэсіўнай сістэме аўтарытарнага рэжыму, які з коранем вынішчае любыя парасткі супраціву ва ўсіх сферах? Безумоўна, гэта таксама адыгрывае вельмі важную ролю, бо, назіраючы за тым, як АМАП па-зверску разганяў маўклівыя акцыі, пасяпаліты беларус разумее, што пратэставаць — гэта даволі небяспечная справа, якая нічым добрым не скончыцца. Усё гэта так, і сказана пра гэта вельмі шмат.

Але ж трэба зірнуць і на іншы бок справы. Выказаць свой пратэст можна не толькі на плошчах і вуліцах пад апазіцыйнымі сцягамі, што для большасці беларусаў смерці падобна. Магчымы і іншыя даволі эфектыўныя формы пратэсту.

Напрыклад, адмовіцца ад прымусовай падпіскі на "Советскую Белоруссию" і сваю раённую газету. Альбо выйсці з Федэрацыі прафсаюзаў, якая з арганізацыі, што павінна абараняць правы працуючых, ператварылася ў орган, які абараняе амаль прыгоннае права ў выглядзе прымусовых кантрактаў. Яшчэ варыянт: кожнаму разумнаму бацьку ці маці проста жыццёва неабходна бараніць сваіх дзяцей ад прамыўкі мазгоў, якую праводзяць у лукашэнкаўскіх "акцыбратах", піянерах і БРСМе. Адным словам, захаваць сваю годнасць і аслабіць сістэму можна, не рызыкуючы трапіць пад дубінкі ці сесці на суткі з усімі далейшымі наступствамі. Было б жаданне.

А вось жадання ў большасці беларусаў якраз і няма. Назіраецца надзвычай небяспечная тэндэнцыя па змяншэнні, як кажуць эканамісты, парогу спажывання. Гэта значыць, што беларусы гатовы адмовіцца ад большасці матэрыяльных выгод і даброт, але працягваць жыць па прынцыпе "мая хата з краю", не вытыркаючыся. А за дэмакратыю, свабоду слова і сумленныя выбары большая частка насельніцтва Беларусі змагацца тым больш не будзе. У такой сітуацыі казаць пра магчымасць шматтысячных сходаў, мітынгаў, дэманстрацый — гэта, мякка кажучы, проста наіўна. А значыць, нас чакае (не дай Бог, канешне) ці страта незалежнасці, ці далейшы рух у бок Паўночнай Карэі. Хацелася б памыліцца, але намаганняў некалькіх соцень мужных грамадзян з дэмакратычных рухаў і партый відавочна недастаткова, калі мільёны працягваюць маўчаць і гатовы трываць далей.

**Дзяніс РАБЯНОК.**

*г.Калінкавічы.*

SOS!

# Касцёл Святога Іосіфа з келлямі манахаў — вернікам!

Немагчыма пералічыць, колькі гістарычных збудаванняў знікла на тэрыторыі Беларусі ў мінулыя стагоддзі.

Але пік знішчэння святынь адбыўся ў XX стагоддзі, калі многія храмы былі ўзарваны ці знявечаны шляхам прыстасавання пад "патрэбы дзяржавы". Захапіўшы і разбурыўшы маёмасць вернікаў, улады не толькі парушылі святыя для ўсіх канфесій запаведзі "Не скрадзі" і "Не прагні нічога, што не тваё", але і выявілі дзікунскае неразуменне мастацкіх і гістарычных каштоўнасцяў лепшых твораў беларускага дойлідства.

Здавалася б, у XXI стагоддзі будзе аднаўлена гістарычная справядлівасць, і тыя будынкі храмаў, якія Боскім цудам захаваліся, павінны вяртацца вернікам. Аднак гэтага не адбываецца ў дачыненні да захаваных у добрым аўтэнтычным стане каменных будынкаў кляштара бернардзінцаў у Мінску — касцёла Святога Іосіфа і дарміторыя (будынка з келлямі манахаў) — помнікаў архітэктуры, якія былі пабудаваны ў 1652 годзе на сродкі вернікаў-каталікоў.

У касцёле адбываліся набажэнствы на працягу 112 гадоў (з 1752 года, калі было асвячэнне будынка, і да 1864-га, калі кляштар быў канфіскаваны дзяржавай за ўдзел вернікаў у паўстанні К.Каліноўскага). Зараз у касцёле месціцца Дзяржаўны архіў. Ужо шмат гадоў вернікі моляцца перад касцёлам за яго вяртанне царкве і спыненне ганебнай з'явы — выкарыстання храма не па святым прызначэнні.

На жаль, улады ігнаруюць усе просьбы вернікаў. Больш таго, у 2005 годзе Мінгарвыканкам прыняў рашэнне аб рэстаўрацыі і рэканструкцыі будынка дарміторыя з мэтай прыстасавання яго пад гатэль. Ажыццяўленне гэтага будзе мець такі ж вынік для вернікаў, як і фізічнае знішчэнне касцёла — у ім нельга будзе маліцца ніколі...

Зразумела чаму: гатэльныя нумары з прыбіральнямі запраектаваны непасрэдна за сцяной алтара і побач з малітоўнай залай касцёла, што несумяшчальна па маральнай і функцыянальнай сутнасці гэтых памяшканняў. Размяшчаць гатэльныя нумары за сцяной алтара нельга яшчэ і таму, што тут знаходзяцца памяшканні, без якіх не можа адбывацца набажэнства ў малітоўнай зале, а калідор гэтых памяшканняў па патрабаваннях пажарнай бяспекі з'яўляецца эвакуацыйным выхадам з малітоўнай залы.

Такім чынам царква пазбавіцца храма, а гэта парушэнне артыкула 30 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацый", дзе гаворыцца, што рэлігійныя арганізацыі валодаюць правам уласнасці на маёмасць, атрыманую ці створаную імі за кошт асабістых сродкаў, ахвяраванняў фізічнымі і юрыдычнымі асобамі ці перададуную рэлігійным арганізацыям ва ўласнасць дзяржавай альбо атрыманую іншым чынам, які супярэчыць заканадаўству Рэспублікі Беларусь.

Так, менавіта на асабістыя сродкі вернікаў братоў Кансоўскіх у 1624 годзе пачалося будаўніцтва кляштара бернардзінцаў у Мінску, якое працягвалася ў XVIII стагоддзі за кошт ахвяраванняў вернікаў і сродкаў рымска-каталіцкай царквы.

Акрамя таго, вышэйзгаданы Закон не прадугледжвае тэрміну даўніны, пасля заканчэння якога маёмасць царквы, што знаходзілася ў дзяржаўнай уласнасці, не можа быць вернута царкве. Таму адзіным маральна і юрыдычна абгрунтаваным рашэннем павінна быць вяртанне рымска-каталіцкай царкве будынкаў касцёла Святога Іосіфа і дарміторыя кляштара бернардзінцаў у Мінску.

Такое меркаванне было выказана ў звароце членаў Канферэнцыі рымска-каталіцкіх біскупаў у Беларусі ў 2007 годзе. Былі сабраны 30 тысяч подпісаў грамадзян краіны пад зваротам да кіраўніка дзяржавы за вяртанне царкве кляштара. З просьбай перадаць касцёл Святога Іосіфа і дарміторый царкве звяртаўся арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі.

Аб недарэчнасці прыстасавання будынкаў кляштара пад функцыі гатэля паведамлялася ў адкрытым лісце групы беларускіх архітэктараў у Мінгарвыканкам, Міністэрства культуры, Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва, а таксама Кіраўніцтва справамі прэзідэнта.

І зноў улады ігнаравалі меркаванне шматлікай грамадскасці і дзеючага заканадаўства: у 2010 годзе пачаліся будаўнічыя работы па прыстасаванні дарміторыя пад гатэль.

Такім чынам утварылася канфліктная сітуацыя, лагічным выйсцем з якой было б першачарговае вяртанне царкве частак будынка дарміторыя, якія знаходзяцца непасрэдна за сцяной алтара і побач з малітоўнай залай касцёла.

Гэта дасць магчымасць маліцца ў касцёле Святога Іосіфа ў будучыні, калі ўлады зразумеюць, што **"тады навошта тая дарога, якая не вядзе праз храм да Бога?"** (Паэма-казань "Так хацеў Бог!" Уладзіслава Завальнюка).

Мая прапанова таксама дазволіць не знявечваць прамакутную прастору былых келляў усталяваннем у іх прыбіральняў, не разбураць крыжападобныя скляпенні столяў, якія захаваліся, дзеля праходу каналізацыйных і водаправодных стаякоў і г.д. Такім чынам будуць захаваны аўтэнтычныя асаблівасці помніка архітэктуры ў непераробленым выглядзе.

Менавіта так выконваецца рэстаўрацыя ў цывілізаваных краінах — з ашчаднымі адносінамі да аб'ёмна-прасторавых і планіровачных рашэнняў, канструкцый і дэталяў гістарычных будынкаў. Як вынік — рэстаўраваныя помнікі архітэктуры з'яўляюцца мастацкімі і гістарычнымі каштоўнасцямі, цікавымі сусветнай культурнай супольнасці.

Беларусы таксама маюць гонар узнавіць касцёл Св.Іосіфа і вышэйзгаданыя часткі дарміторыя кляштара бернардзінцаў у Мінску ў адпаведнасці з сусветнымі стандартамі. Але дзеля гэтага неабходны рашучыя намаганні ўсіх неабыякавых да сваёй спадчыны грамадзян Рэспублікі Беларусь.

**Барыс АЛЯКСАНДРАЎ,**
**архітэктар,**
**член Беларускага**
**саюза архітэктараў.**

ШЧЫРА

## *А я глядзеў ім услед...*

Золкім студзеньскім днём, калі на душы было няўтульна і нылі застарэлыя раны, я стаў сведкам маленькага эпізоду, які рашуча змяніў мой упадніцкі настрой і прасвятліў душу.

Па асфальтавай дарожцы паміж гімназіяй №4 і абеліскам у гонар загінуўшых воінаў-інтэрнацыяналістаў прагульвалася незнаёмая мне пара. Абодва — вельмі шаноўнага ўзросту. У іх былі незвычайна выразныя твары: у яго — суровы, зрэзаны шматлікімі маршчынамі, у яе — адбітак нязводнай маладой прывабнасці.

Я міжволі залюбаваўся імі. Іх вочы ззялі цеплынёй і ціхай радасцю. Яны ішлі, узяўшыся за рукі, як, пэўна, было ў далёкія юнацкія гады. Ці як птушкі, што падтрымліваюць адна адну ў далёкім пералёце.

Пара закаханых ужо збочыла на бульвар у бок Храма Святых Жонак-Міраносіц, а я ўсё глядзеў ім услед і думаў: на жаль, не часта ўбачыш у паўсядзённасці такую праяву чалавечай прыгажосці, адданасці і пяшчоты. У нялёгкіх жыццёвых мітрэнгах больш укараняюцца ў адносінах паміж людзьмі абыякавасць, а то і непрыязнасць. Яны так і лезуць у вочы. А тут дзівоснае аказалася побач — тое, што, на добры лад, павінна поўніць нашы душы, абуджаць высокую духоўнасць і маральнасць.

...Шчаслівая пара, пяшчотна трымаючыся за рукі, праходзіць паміж дзвюх святынь, аддаючы ім сваю павагу і паклон. Я іх не ведаю, але ўпэўнены: без такіх людзей жыццё даўно зледзянела б.

**Віктар БРУЦКО,**
**жыхар г.Баранавічы.**

